# Ніва

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 46 (246) | ГОД V | БЕЛАСТОК, 13 ЛІСТАПАДА 1960 ГОДА | ЦАНА 60 ГР.


# ВІТАЕМ
## II ПЛЕНУМ ГП БГКТ

**13 лістапада адбудзецца ІІ-ое пленарнае пасяджэнне Галоўнага Праўлення Беларускага грамадска - культурнага таварыства. Як мы ўжо паведамлялі, Пленум абмяркуе працу аддзелаў і гурткоў БГКТ. Пытанне вельмі важнае і добра, што яму прысвячаецца асобнае пленарнае пасяджэнне і што яно стала на парозе новага сезона культурнай працы.**

**ІІ з'езд БГКТ паставіў перад Таварыствам канкрэтныя заданні і рэалізаваць іх павінны не толькі члены прэзідыум ці ГП, але ўсе члены БГКТ. Толькі тады будзем мець добрыя вынікі.**

**Асноўны цяжар гэтай працы павінны несці аддзелы і гурткі. Толькі тады мы зможам цесна звязацца з вёскай і гэтым самым рэалізаваць асноўны напрамак нашай дзейнасці, на які звяртаюць увагу пастановы ІІ з'езду БГКТ.**

**Такі правільны напрамак дзейнасці нашага Таварыства гаворыць аб неабходнасці прыцягнення да працы ў БГКТ шырокага грамадскага актыву.**

**Аналіз дагэтуляшняй працы аддзелаў і гурткоў паказвае, што маем значныя рэзервы мясцовых актывістаў, што яны ў штодзённай працы недастаткова выкарыстаны. Варта на гэта звярнуць асаблівую ўвагу бо ад вырашэння гэтай справы залежыць усебаковая актывізацыя культурнага жыцця нашай вёскі. А гэта неадкладнае заданне, якое стаіць перад намі. Ад яго вырашэння будзе залежыць і эфектыўнасць нашай працы.**

**Трэба спадзявацца, што Пленум унясе значны ўклад у далейшае развіццё дзейнасці нашага Таварыства.**

**Сардэчна вітаем удзельнікаў ІІ-ога Пленума БГКТ і жадаем плённых вынікаў у яго працы.**



Фрагмент ткацкага цэха ў новапабудаваным баваўняным камбінаце ў Фастах, на Беласточчыне. Тут прадукуюцца высокаякасныя каляровыя тканіны.

## Нацыянальныя семінары

У Дэпартаменце культурна - асветнай працы і бібліятэк Міністэрства культуры і мастацтва ў Варшаве адбылася канферэнцыя, прысвечаная міжваяводскім нацыянальным семінарам. У канферэнцыі прынялі ўдзел прадстаўнікі ваяводскіх аддзелаў культуры з тых ваяводстваў, на якіх тэрыторыі пражываюць нацыянальныя меншасці, а таксама прадстаўнікі нацыянальных таварыстваў, існуючых у нашай краіне.

Мэтай канферэнцыі было азнаямленне з праблематыкай, якой будуць прысвечаны нацыянальныя семінары ў бягучым годзе.

Арганізаванне таго роду семінараў Міністэрства культуры запачаткавала яшчэ пяць год таму назад. Першыя семінары былі прысвечаны высвятленню палітыкі Партыі і Урада ў нацыянальных справах. Прашлагодні семінар быў ужо праблемным.

У бягучым годзе міжваяводскі двухдзённы нацыянальны семінар для Беластоцкага і Альштынскага ваяводстваў адбудзецца 2 і 3 снежня ў Белавежы. У гэтым семінары прымуць удзел 32 асобы — прадстаўнікі павятовых рад народовых, аддзелаў культуры, дамоў культуры, бібліятэк, а таксама прадстаўнікі беларускага, украінскага, літоўскага і яўрэйскага нацыянальных таварыстваў.

В. Ш.



СЛУХ НА СЕМЯРЫХ

Фота — Аляксей Казберук

## БЕЛАРУСКАЯ ФІЛАЛОГІЯ Ў НОВЫМ АКАДЭМІЧНЫМ ГОДЗЕ

Пасля летніх канікул 46 студэнтаў беларускай філалогіі пры Варшаўскім Універсітэце прыступіла да працы. 13 студэнтаў пятага курса распачало новы навучальны год у палове кастрычніка , пасля шасцітыднёвай практыкі ў беларускіх сярэдніх школах у Бельску - Падляшскім і Гайнаўцы. Студэнткі пятага курса Ольга Федаровіч і Ірміна Павэльская а таксама студэнт чацвёртага курса, Мікола Лобач, пабывалі на практыцы ў Мінскім Дзяржаўным Універсітэце.

21 кастрычніка г. г. на Кафедры беларускай філалогіі адбыўся запазнаўчы вечар студэнтаў старэйшых курсаў з «навічкамі» — малодшымі сябрамі з першага курса. На гэтым вечары студэнты пятага курса дзяліліся сваімі ўражаннямі з пабыўкі ў Мінску і з практыкі ў беларускіх сярэдніх школах на Беласточчыне.

В. Ш.

## НА ПАРАДКУ ДНЯ СПРАВЫ КУЛЬТУРЫ

26 кастрычніка, на чарговым пасяджэнні камісіі культуры ГП БГКТ апрацавана план яе дзейнасці да канца 1960 года і на ўвесь 1961 год.

Звернута асаблівую ўвагу на пашырэнне і ўдасканаленне рэпертуару беларускага калектыву песні і танца. Вырашана ўвесці ў яго праграму больш беларускага матэрыялу. На пасяджэнні гаварылася таксама аб забеспячэнні самадзейных вясковых гурткоў свежым і добрым сцэнічным рэпертуарам. У дыскусіі адзначалася неабходнасць арганізавання спецыяльных семінараў для кіраўнікоў вясковых самадзейных гурткоў. Яны адбываліся б штомесячна ў Беластоку і прадугледжвалі б драматычны, харавы і танцавальны напрамкі — найбольш распаўсюджаны на вёсцы.

Ужо зараз усе актывісты БГКТ павінны адгукнуцца на гэтую думку, прысвяціць належную ўвагу больш шпаркаму развіццю самадзейнага руху і абмеркаваць справу, каго паслаць на гэтыя семінары.

На пасяджэнні ўключана ў план справу пашырэння супрацоўніцтва з культурнымі арганізацыямі і ўстановамі, а таксама пашырэнне карыснага супрацоўніцтва з Беларускім таварыствам культурнай сувязі з заграніцай у БССР.

Важным пунктам пасяджэння камісіі была справа актывізацыі творчых гурткоў пры ГП БГКТ: навуковага гуртка, літаратурнага аб'яднання і аб'яднання мастакоў.

(МК)

ы хіба памятаеце міф старажытнай Грэцыі аб тым, як малады і бясстрашны Язон накіраваўся на Каўказскае ўзбярэжжа Чорнага мора, у Калхіду, каб знайсці залатое руно цудоўнага барана. Яго быстраходны «Арго» паспяхова адбыў плаванне, і старая Медэя, убачыўшы мужнага Язона і яго таварышоў, з радасцю аддала сваю чарадзейскую сілу на службу дапытлівым смельчакам.

Карэспандэнцыя з БССР

# УНІВЕРСІТЭТЫ КУЛЬТУРЫ

Я ўспомніў аб подзвігу арганаўтаў глыбокай старажытнасці дзеля таго, каб параўнаць іх з нашымі людзьмі, якія накіроўваюцца ў смелае плаванне па акіяну чалавечай культуры зусім не дзеля славы і асабістай выгады, а з-за арганічнай патрэбы даведацца як мага больш і лепш.

Універсітэты культуры ўзніклі зусім нядаўна — год—два таму. Зараз нават цяжка сказаць, дзе ўпершыню з'явілася ідэя іх стварэння. Але з'явіўшыся, яна хутка заваявала розум многіх тысяч людзей.

У Беларусі зараз налічваецца больш сарака універсітэтаў культуры. Яны ўжо існуюць ва ўсіх буйнейшых гарадах, у шматлікіх раённых цэнтрах і некаторых вёсках.

Але што прадстаўляюць сабой гэтыя універсітэты? Даць дакладна сфармуляваны адказ яшчэ цяжка, бо хоць яны і існуюць, але станаўленне іх па сутнасці яшчэ не закончана, і найлепшы варыянт будзе знойдзены ў працэсе практыкі

На сённяшні дзень ужо акрэсліліся два асноўныя тыпы універсітэтаў культуры. Першы — такі, напрыклад, створаны ў Гомелі — мае факультэцкую структуру. На розных факультэтах слухачы знаёмяцца з пытаннямі гісторыі і практыкі тэатральнага мастацтва, музыкі, літаратуры, кіно, эстэтыкі. Другі тып (пераважаючы) — не мае факультэтаў, заняткі не маюць строгай спецыфікацыі праграмы і разбіўкі слухачоў на прадметныя групы. Тут іх дзяленне адбываецца толькі па вытворча - тэрытарыяльнаму прынцыпу. Напрыклад, на прадпрыемстве, дзе ёсць многа жадаючых наведваць універсітэт культуры, арганізуецца спецыяльнае аддзяленне універсітэта, якое працуе па той жа праграме, што і асноўнае. Гэта звальняе слухачоў ад паездак, эканоміць дарагі час і стварае лепшыя ўмовы для заняткаў.



Члены Універсітэта культуры Аршанскага ільнакамбіната маляр ткацкага цэха Ф. Янковіч (злева) і ткачыха Л. Астраух на занятках у студыі выяўленчага мастацтва.

Так арганізаваны універсітэты культуры, напрыклад, у Віцебску і Гродне.

У праграмы ўключаюцца пытанні, сума якіх дазваляе пазнаёміцца з лепшымі дасягненнямі савецкай культуры і перадавой культуры Захада. Напрыклад, з галіны эстэтыкі чытаюцца лекцыі аб форме і змесце, аб мастацтве як форме адлюстравання рэчаіснасці. Музыкальны цыкл складаецца з тэм аб творчасці кампазітараў-класікаў і буйнейшых стваральнікаў сучаснай музыкі. У раздзеле тэатразнаўства разглядаецца гісторыя музычнага і драматычнага тэатру, аб акцёрскім і рэжысёрскім мастацтве, вядзецца азнаямленне з прынцыпамі стварэння і разбор пейзажнага, партрэтнага і жанравага жывапісу і г. д.

Перад слухачамі часта выступаюць пісьменнікі, мастакі, кампазітары, дзеячы тэатру і кіно; паказваюцца сцэны са спектакляў, дэманструюцца мастацкія і дакументальныя фільмы.

Трэба зазначыць, што нашы універсітэты культуры ўзніклі і працуюць на самадзейнай аснове. Ніхто з кіраўнікоў зарплаты не атрымлівае: гэта грамадскае даручэнне. Кіруе ўсёй практычнай дзейнасцю універсітэта культуры Савет універсітэта, які выбіраецца адкрытым галасаваннем на сходзе слухачоў.

З усяго гэтага вынікае, што універсітэты культуры — гэта масавыя самадзейныя культурна - асветныя ўстановы. Універсітэты культуры павінны быць сродкам, дапамагаючым шырокім масам працоўных здабываць універсальныя веды, якія не могуць даць спецыяльныя навучальныя ўстановы і якія так неабходны будаўнікам камуністычнага грамадства.

Ю. ТАРАН

Фальклор Беласточчыны

«Нам продкаў кемнасць захавала
Шмат весцяў дзіўных з быўшых год...»
(Я. Купала, «Магіла льва)

# ЛЕГЕНДЫ І ПАДАННІ

Легенды і паданні належаць да выпрацаванай простым народам на працягу стагоддзяў скарбніцы нацыянальнай культуры, якую мы называем фальклорам. У іх зжыліся і здружыліся дзве адвечна непрымірымыя рэчы: гістарычная праўда і выдумка - фантазія. Высокае майстэрства пабудовы гэтых народных твораў, іх займальнасць і глыбокі змест сведчаць аб нязгасным імкненні простых людзей апаэтызаваць і асэнсаваць мінулае наваколля, у якім яны жывуць і працуюць.

## ЖЫВАЯ ВАДА

Калі ў вёсцы Сасіны стаяла яшчэ старая царква, каля яе біла крыніца з жывою вадою. Сходзіліся туды людзі і сляпыя, і храмыя, а калі ўмыліся жывою вадою дык адходзілі здаровымі. Слава аб крыніцы цудоўнай ішла далёка па свеце. Усё больш і больш прыходзіла з розных старон і краёў людзей няшчасных да цудадзейнай крыніцы па вылячэнне.

Аднаго разу прыйшла аднейчуль да крыніцы знатная пані з хворым сабакам. Яна без спросу ў людзей выкупала сабаку ў жывой вадзе.

— Што ты робіш? — абурыліся хворыя і калекі. — Ці ж можна купаць у цудоўнай крыніцы нячыстае стварэнне?

— Мой сабака чысцейшы ад вас паганых, — фанабэрыста

(Працяг на стар. 5).

У той час, як Ларэ быў поўнасцю заняты клопатамі аб Брыке, Артур Дауэль збіраў даведкі аб доме Керна. Ад часу да часу сябры раіліся з Брыке, якая гаварыла ім усё, што ведала аб доме і людзях, якія ў ім жылі.

Артур Дауэль вырашыў дзейнічаць вельмі асцярожна. Трэба весці справу так, каб да апошняга моманту Керн не падазраваў, што на яго ўжо вядзецца атака.

— Перадусім трэба даведацца, дзе жыве мадэмуазэль Ларан, — сказаў ён Ларэ. — Калі яна не заадно з Кернам, то шмат нам паможа.

Даведацца адрас Ларан не прадстаўляла вялікай цяжкасці. Але калі Дауэль наведаў кватэру, яго чакала расчараванне. Замест Ларан ён застаў толькі яе маці.

— Ці магу я бачыць мадэмуазэль Ларан? — спытаў ён.

Старая са здзіўленнем паглядзела на яго.

— Маю дачку? Маёй дачкі няма дома. Яна ў бальніцы.

— У бальніцы? У якой бальніцы?

Дауэль даведаўся, што Керн паведаміў мадам Ларан, што яе дачка захварэла нервовым расстройствам і яе адвезлі ў бальніцу для псіхічна хворых.

— Я ненавіджу гэтага Керна, — гаварыла старая, выціраючы хусткай слёзы. — Гэта ён давёў маю дачку да вар'яцтва.

«Не, у гэтым доме не можа быць супольнікаў Керна» — падумаў Артур Дауэль.

— Мадам, — сказаў ён, — я не менш вас ненавіджу Керна. Мне патрэбна была ваша дачка, каб звесці з Кернам [illegible] рахункі і... выявіць яго злачынствы



Мадам Ларан ускрыкнула.

— О, не хвалюйцеся, ваша дачка не замешана ў гэтых злачынствах.

— Мая дачка памрэ, чым зробіць злачынства, — горда адказала Ларан.

— Я хацеў скарыстаць з паслуг мадэмуазэль Ларан, але цяпер бачу, што ёй самой неабходна аказаць паслугу. Я маю падставы меркаваць, што ваша дачка не звар'яцела, што яе замкнуў у дом вар'ятаў Керн.

— Але чаму? Навошта?

— Менавіта таму, што ваша дачка хутчэй памрэ, чым зробіць злачынства, як вы сказалі. У якой бальніцы ваша дачка?

Артур даведаўся, што бальніца знаходзіцца пад Парыжам у Ско і з'яўляецца ўласнасцю прыватнага лекара Равіно.

— Ах, я ездзіла туды! — сказала старая. — Але мяне нават не пусцілі на панадворак.

— Я ўсё - такі пастараюся пабачыцца з вашай дачкою.

Артур запісаў адрас і выйшаў. Ён вырашыў неадкладна сустрэцца з Ларэ і накіраваўся на авен'ю д'ю Мэн. Каля доміка стаяў аўтамабіль Ларэ.

Дауэль быстра падняўся на другі паверх.

— Артур, якое няшчасце! — сустрэў яго Ларэ.

— У чым справа?

— О!.. — прастагнаў Ларэ. — Яна ўцякла...

— Хто?

— Мадэмуазэль Брыке, зразумела!

— Уцякла? Але чаму? Гавары ж, урэшце, з сэнсам!

— Учора нага Брыке спухла і зсінела, — пачаў Ларэ. — Я паклікаў лекара. Ён сказаў, што пачалася гангрэна. Неабходная аперацыя. Лекар загадаў неадкладна завезці хворую ў бальніцу. Але Брыке ні за што не згаджалася. Яна баялася, што ў бальніцы звернуць увагу на шрамы на яе шыі. Яна плакала і гаварыла, што павінна вярнуцца да Керна. Керн папярэджваў яе, што ёй неабходна застацца ў яго да поўнага «выздараўлення». Яна не паслухалася яго і цяпер жорстка пакарана. І яна верыць Керну як хірургу. Усе мае намаганні адцягнуць яе ад гэтай думкі не далі пажаданых вынікаў і я вырашыў прымяніць хітрасць. Я сказаў, што сам адпраўлю яе да Керна, думаючы перавезці яе ў бальніцу. Але мне неабходна было папярэдзіць знаёмых лекараў, каб сапраўды таямніца «ўваскрашэння» Брыке не выявілася. І я адлучыўся на гадзіну. Я хацеў перахітрыць Брыке, але яна перахітрыла мяне і сідзелку. Яна паднялася, падышла да тэлефону і выклікала мяне. Пагаварыўшы па тэлефону Брыке сказала сідзелцы, што я быццам бы ўсё ўладзіў і прашу яе неадкладна ехаць у бальніцу. І Брыке папрасіла сідзелку выклікаць аўтамабіль, затым з яе дапамогай дабралася да аўтамабіля і ад'екала, адказаўшыся ад паслуг сідзелкі. Вось, што ад яе засталося, і Ларэ падаў для Артура лісток паперы, на якім карандашом наспех было напісана некалькі слоў:

«Ларэ, выбачце мне, я не магу паступіць інакш. Я вяртаюся да Керна. Не наведвайце мяне. Керн паставіць мяне на ногі, як ужо зрабіў гэта раз. Да хуткай сустрэчы, — гэта думка ўцяшае мяне».

— Нават подпісу няма.

— Звярні ўвагу, — сказаў Ларэ, — на почырк. Гэта почырк Анжэлікі... Артур! — раптам усклік-

(Працяг на стар. 7)

# Мары здзяйсняюцца

Старэнькі, ужо аджыўшы свой век будынак сямікласнай пачатковай школы ў вёсцы Ляшукі (Гайнаўскі пав.), ледзь змяшчаў і змяшчае ў сваіх залах усіх вучняў. Цяжкія ўмовы да працы маюць тут настаўнікі, а вучні да навукі. Таму ўсе марылі, каб дачакацца пабудовы новага школьнага будынка. Цяпер мары іх здзяйсняюцца — у Ляшуках будуецца новая школа.

Лёгка стала на душы жыхарам Ляшукоў, Міхнаўкі і Бакавога, калі даведаліся яны аб рашэнні ўлад адносна пабудовы школы. Таму яны не пашкадавалі сваіх рук, і, каб хутчэй пачалася пабудова, вырашылі ўкласці крыху грамадскай працы. Грамадскім чынам ачышчана плошчу пад фундамент, звезена патрэбную колькасць камення і жвіру, выкапана яму на лясаванне вапны і вапну злясавана. Найбольш грамадскага чыну ўклалі наступныя грамадзяне: старшыня бацькоўскага кэмітэта ляшуцкай школы Мікола Засім, Пятро Харкевіч, Кастусь П-цынскі, Іван Грыка, Якім Харкевіч, Васіль Харкевіч с. Арсення, Павел Харкевіч с. Сяргея з Міхноўкі. Былі, нажаль, і такія людзі, якія не ўклалі сваёй цагелкі.

Пабудова школы пачалася ў месяцы жніўні. Выконвае яе будаўлянае тэрановае прадпрыемства з Бельска. Цагляны будынак расце, як грыбы пасля дажджу. Кіраўніцтва пабудовы цешыцца рабочымі, якія з'яўляюцца жыхарамі навакольных вёсак. Яны сумленна выконваюць сваю працу. Калі не прыціснуць марозы, дык пабудова школы ў сырым выглядзе закончыцца ў месяцы снежні, а вясною наступнага года плануецца яе выканчэнне.

МК

## НАВУКОВА-ЛІТАРАТУРНЫ ЗБОРНІК І БЕЛАРУСКІ КАЛЯНДАР НА 1961 ГОД

Прыпамінаем, што ГП БГКТ прымае заяўкі на Навукова - літаратурны зборнік і беларускі каляндар на 1961 год, які ўжо складаецца ў друкарні.

# НА ДЗЕНЬ НАСТАЎНІКА

**Па ўсёй краіне ідзе падрыхтоўка да святкавання дня настаўніка. Зразумела, што падрыхтоўка найбольш кранае самых настаўнікаў. Настаўнікі кожнага раёна рыхтуюцца правесці вечар гэтага дня супольна. Але большасць настаўнікаў вырашыла стварыць у гэты дзень насельніцтву сваіх аколіц магчымасць культурнай разрыўкі. Напрыклад, вельмі атракцыйную праграму на свой дзень склалі настаўнікі раёна Нараўка. Яны рыхтуюць пастаноўку п'есы «Смолякова», а таксама некалькі скетчаў і песняў (беларускія і польскія). З гэтай праграмай выступяць настаўнікі ў зале клуба ў Нараўцы. А настаўнікі з самой Нараўкі рыхтуюць скромнае выступленне вучнёўскага мастацкага гуртка сваёй школы.**

**(мк)**

# ЖЫВАЯ ВАДА

**(Працяг са стар. 3)**

адказала пані. Ніхто з людзей не пасмеў пярэчыць знатнай пані і яе здаравенным лёкаям.

Як толькі панскі сабака вылез з вады, на вачах у людзей берагі крыніцы сышліся, жывая вада знікла.

Стогн жаласці пракаціўся па натоўпе сабраных. Пані, прадчуваючы нядобрае, у момант знікла. Людзі кінуліся ратаваць цудоўную крыніцу. Адкопвалі яе чым хто мог. Капалі і рыдлёўкамі і рукамі. Капалі і многа і доўга. Але не маглі трапіць на яе след. Зямля ўсюды была сухая. Пасмутнеўшыя людзі разбрыліся па сваіх хатах.

Праз нейкі час на месцы цудадзейнай крыніцы зноў паявілася вада. Але яна ўжо не была халодным струменем, а кропля за кропляй сачылася быццам слёзы. Людзі зноў кінуліся да крыніцы. Кропля да кроплі збіралі ваду і шукалі ў ёй ратунку ад сваіх няшчасцяў і хвароб. Але вада больш не лячыла.

Як знікла крыніца з жывою вадою, на вёску пасыпалася няшчасце за няшчасцем. Ноччу, увосень, не вядома з чаго згарэла старая царква. Прышло паветра на вёску. Людзі ўміралі, як мухі, і некаму было хаваць пакойнікаў. Людзі ва ўсім вінавацілі фанабэрыстую знатную паню з сабакам. Не шукалі яны збавення ў крыніцы. Сцежкі да яе хутка зараслі травой і карчамі, а людзі пачалі забываць месца, дзе некалі біла жывая вада.

Крыніца ж не дала забыць аб сабе. Нават тады, калі збожжа на палях жоўкне ад няўмольнай засухі, на месцы крыніцы заўсёды кропля за кропляй сачыцца вада, быццам слёзы па загубленым шчасці.

**Апрацаваў М. Гайдук**




**І яшчэ адзін конкурс — на прыгожыя, высокія таполі.**

**22 кастрычніка ў Варшаве, у часе падсумавання вынікаў першай краёвай кантрактацыі і конкурсу па вырошчванню гэтай карыснай расліны, яе плантатары дэманстравалі свае «тапалёвыя» дасягненні. Бачым, што і Беласток заняў тут пачэснае месца.**

# Падазеранскі дзяцінец

Праходзячы каля пачатковай школы ў Падазеранах, Беластоцкага павета, я здзіўлены быў прысутнасцю ў гэтым месцы малых дзяцей. Яны весела гулялі на школьнай плошчы сярод клумбаў засыхаючых, асенніх кветак, надаючы асеннему, сумнаму малюнку нейкі жывы і радасны выгляд.

— Ці гэта таксама вашыя выхаванцы? — запытаў я кіраўніка, грамадзяніна Лясоту, зайшоўшы ў школу.

— Нашыя, але яны яшчэ не школьнікі, — адказаў кіраўнік.

— Як жа гэта? — запытаў я, нічога не разумеючы.

— Ды проста, — адказаў кіраўнік. — Гэта выхаванцы нашага дзяцінца. Дзеці яшчэ дашкольнага ўзросту.

2 гады таму назад не мала мелі турбот бацькі ў Падазеранах са сваімі малодшымі пацехамі. Асабліва ў час палявых работ. Старэйшыя дзеці пойдуць у школы, а малодшых няма куды дзяваць. У хаце ж без дагляду не пакінеш такіх і ў поле браць нявыгадна.

На адным з бацькоўскіх сходаў настаўнікі мясцовай школы выступілі з вельмі цікавай прапановай.

— Давайце арганізуем дзяцінец у вёсцы, — гаварыў кіраўнік Лясота. — Дорага каштаваць не будзе, а карысць вялікая. Справу грунтоўна абмеркавалі і бацькі згадзіліся.

Ужо два гады ў Падазеранах існуе дзяцінец. Бацькі ім вельмі здаволены. Дзеці ад 8 да 17 гадзіны весела праводзяць час у дзяцінцы. Яны тут маюць належную апеку і добрае выхаванне. У час знаходжання ў дзяцінцы малышы атрымоўваюць 2 разы добра падрыхтаваную ежу. Выхавацельніцай дзяцінца з'яўляецца Браніслава Юрчак. Два гады таму назад яна закончыла ліцэй выхавацельніц дзіцячых садоў у Беластоку.

— Сваёй працай, — гаворыць Браніслава Юрчак, — я вельмі здаволена. — Люблю гэтую працу. Відаць, што і малышы вельмі любяць сваю «паню», бо калі да іх звяртаецца, або прапануе нейкую цікавую гульню, вачаняты малышоў гараць пацёрачкамі ад захаплення. Выхавацельніца паказала мне пакой, дзе дзеці гуляюць у час непагоды. Ён хаця і невялікі, але чыста ўтрыманы. Тут шмат усялякіх забавак. На сценах цікавыя малюнкі з розных казак. Выкананыя яны (аб гэтым я даведаўся потым) рукамі самай выхавацельніцы.

— Ці гэтыя забаўкі куплены за кошт бацькоў? — пацікавіўся я.

— Не, — адказала выхавацельніца. — Мы ў апошні час наладзілі цесную сувязь з Таварыствам прыяцеляў дзяцей (ТПД). Таварыства нам шмат дапамагае, у тым ліку і фінансава.

— А колькі плацяць бацькі за апеку над дзяцьмі.

— Бацькі плацяць прадуктамі. Прыносяць, хто бульбу, хто сала, малако, крупы, мяса. Так плаціць ім выгадней і нам лепш.

— Добрая рэч дзяцінец у вёсцы, — думаў я, ад'язджаючы з Падазеран. На жаль, вельмі мала яшчэ іх у нашых вёсках. А чаму ж? Як сведчыць прыклад Падазеран, арганізаваць дзяцінец у вёсцы не так ужо і цяжка. Абы ахвота.

**В. БАРШЧЭЎСКІ**

# ЧЫЦКІЯ НАТАРЫ

толькі адзін квіт на суму 29.100 зл., г. зн. на суму, якую ты зараз здаеш, плюс пазычаныя грошы ад Дубца. Усё апошняе аформім мы тут самі. Зразумела?

— Ну, добра, — вымавіла прадаўшчыца пасля даўжэйшага маўчання, — але хто будзе аддаваць гэтыя грошы? Яны ж будуць запісаны на конце маёй крамы.

— Доўг Дубцу аддасі паступова з уплываў да касы тваёй крамы, — выясніў старшыня.

— То ж у мяне за некалькі дзён рэманент, усё выкрыецца. Будзе суперата.

— Пакінь ужо нам гэтыя турботы, а зараз ідзі і зрабі, як чула, — рашуча адказаў старшыня.

— Што ж асталося беднай прадаўшчыцы. Мо' не паслухаць сваіх «начальнікаў»? Чула ж яна: на яе месца чакае шмат ахвотных.

На другі дзень (2.I.60 г.) Яўген Дубец узяў патрэбныя грошы, прадаўшчыца дала патрэбны квіт, а спулдзельчая каса адзначыла ў сваіх актах, што грошы ўплылі 31 снежня 1959 года.

Гэткім чынам ГС у Мілейчыцах выканаў свой фінансавы план за 1959 год.

Чацвёртага студзеня ў краме Яўгеніі Пешка адбыўся рэманент. Ён мусіў адбыцца, бо так прадбачваў план. Узнікла небяспека, што нечакана будзе дваццацітысячная суперата ў сувязі з пазыкай і ўсё выясніцца. Але і на гэта знайшоўся спосаб. Проста праўленне мілейчыцкага ГС-у «падказала» сваім рэвізорам, якія праводзілі гэты рэманент, каб яны на суму 20 тыс. зл. зрабілі асобныя спісавыя лісты і то ў двух экземплярах, замест, як звычайна, у чатырох. Потым гэтыя спісавыя лісты затаілі і знішчылі.

Гэткім чынам усё прайшло вельмі гладка. Дабрадушны кіраўнік скупкі — Яўген Дубец — рэгулярна атрымліваў свой доўг разам з працэнтамі, а праўленне спакойна спала сном заслужаных рацыяналізатараў у галіне спосабаў на цудоўнае выкананне планаў.

І мо' спалі б так да сённяшняга дня. Але Мілейчыцы — гэта не Варшава. Тут нават іголку цяжка схаваць, каб хто не знайшоў, а што тады гаварыць аб гэтым злачынстве, якому рогі самыя з мяшка вылазяць.

Ужо ў красавіку бягучага года справа трапіла да мілейчыцкай міліцыі, якая з недастатковай энергіяй узялася за яе. Урэшце гэтым злачынствам пацікавілася павятовая пракуратура ў Сямяцічах. Арыштавана старшыню мілейчыцкага ГС-у Уладзіміра Пракаповіча, які зараз чакае на судовы разбор.

Цікава толькі, чаму іншыя яго сябры — супольнікі дагэтуль карыстаюцца свабодай? Яны ж, на маю думку, не менш адказныя за гэтае злачынства, чым сам старшыня.

**ВУЭР**

**З жыцця БГКТ у Варшаве**

# ПЛАН ПРАЦЫ

Праўленне Варшаўскага аддзела БГКТ на сваім апошнім пасяджэнні зацвердзіла план сваёй працы на IV квартал г. г. Згодна з прынятым планам адбудуцца ў Аддзеле цікавыя мерапрыемствы.

4 лістапада г. г. у памяшканні Варшаўскага аддзела адкрылася выстаўка рысункаў Янкі Анісэровіча.

Запланавана шмат літаратурных вечараў. Адбудуцца таксама два вечары беларускай песні з грампласцінак у выкананні Забэйды Суміцкага з прэлекцыяй Пятра Ластаўкі аб спяваку і ў выкананні Беларускай Дзяржаўнай Капелы пад кіраўніцтвам Рыгора Шырмы з прэлекцыяй Віктара Шведа аб Шырме і яго капелы.

У палове лістапада г. г. Варшаўскі аддзел арганізуе «Вечар Дружбы» ў спалучэнні з мастацкай і танцавальнай часткай. На чарговым пасяджэнні дыскусійнага клуба Янка Анісэровіч выступіць з дакладам аб нацыянальным пытанні ў Леніна.

Зараз балетная група Варшаўскага аддзела БГКТ пад кіраўніцтвам Рычарда Адамовіча рыхтуецца да сваіх выступленняў.

**В. Ш.**

# Беларускія радыёперадачы

Як мы даведваемся ад нашых чытачоў, расце зацікаўленасць беларускімі радыёперадачамі Беластоцкага «Радыё».

Палявыя работы закончыліся і гэта дазваляе жыхарам вёсак больш часу прысвяціць для радыё. Але як аказваецца, тыя нават, што карыстаюцца ў хаце радыёпрыёмнікамі не заўсёды ведаюць, калі перадаюцца беларускія радыёперадачы Беластоцкага «Радыё». Падаем да ведама, што беларускія радыёперадачы можаце слухаць **у кожную сераду ў гадз. $18^{00}$—$18^{15}$.** Яны паўтараюцца **ў кожную суботу ў гадз. $13^{00}$—$13^{15}$.**

Увага! Тых, якія маюць радыёкропкі, паведамляем, што кіраўнікі радыёвузлоў на тэрыторыі ўсяго ваяводства не толькі могуць, але нават абавязаны ўключаць у сетку сваёй радыёвай акругі ўсю праграму Беластоцкага «Радыё».

(мк)

# БУДЗЕ БРУК

Восенню і вясною дарога праз вёску Вулька Нурэцкая (Сямяціцкі павет) пераўтвараецца ў цякучую рэчку балота і вады. Не толькі цяжка прайсці там вуліцай без гумовых ботаў, але яшчэ трудней праехаць гружаным возам.

Неўзабаве ўжо гэтыя труднасці стануць успамінам, так як шмат іншых праяў старыны і адсталасці. Зараз у Вульцы Нурэцкай укладваецца брук. Дзяржава дае грошы на пакупку камня, патрэбнага да пабудовы бруку і аплочвае майстраў, а сяляне даюць рабочую сілу ў рамках шарварку.

Шкада толькі, што працы пры пабудове бруку вельмі доўга цягнуцца.

**В. Р.**



**На здымку: дарожныя майстры Мар'ян Паскрубка і Аляксей Баранаў за працай пры ўкладанні бруку.**

**фота — В. Рудчык**

# З працы навуковага гуртка пры ГП БГКТ

Члены існуючага пры ГП БГКТ навуковага гуртка на сваім чарговым пасяджэнні 30.X. гг. абмеркавалі наступныя працы: В. Склубоўскага «Некаторыя пытанні беларускага нацыянальнага руху», Л. Філіпік «Да гісторыі польска - беларускіх лексічных узаемаадносін» і Г. Анаціка «Ўспаміны аб беларускай вёсцы».

У часе шырокай дыскусіі члены навуковага гуртка адзначалі, што гэтыя цікавыя працы пасля некаторай дапрацоўкі павінны знайсціся ў навукова - літаратурным зборніку на 1962 год.

На пасяджэнні паклікана рэдкалегію новага зборніка, якая будзе займацца падрыхтоўкай закваліфікаваных да друку прац. У склад рэдкалегіі навукова - літаратурнага зборніка на 1962 год увайшлі: Уладзімір Юзвюк — галоўны рэдактар, Алесь Барскі і Вінцук Склубоўскі — члены рэдкалегіі.

**В. Ш.**

# Вечар творчасці Уладзіміра Караткевіча

28 кастрычніка г. г. у памяшканні Варшаўскага Аддзела БГКТ адбыўся літаратурны вечар, прысвечаны творчасці маладога пісьменніка Савецкай Беларусі Ўладзіміра Караткевіча. Вершы і апавяданне таленавітага аўтара чыталі Янка Анісэровіч і Віктар Швед. Апрача таго, Янка Анісэровіч пазнаёміў прысутных са сваім перакладам верша Караткевіча «Чайка».

Цікавая творчасць маладога пісьменніка зрабіла на ўдзельнікаў вечара вялікае ўражанне.

У часе дыскусіі прысутныя выказвалі думкі, каб часцей арганізаваць вечары, прысвечаныя творчасці цікавейшых маладых аўтараў, якія яшчэ не дарабіліся ўласных зборнікаў, а якіх творы параскіданыя па старонках літаратурных часопісаў. У вечары прыняла ўдзел 25 асоб.

**В. Ш.**

# КНІЖКІ ДЛЯ СТУДЭНТАЎ ЗНС

Аддзяленне беларускай філалогіі Завочнай настаўніцкай студыі ў Беластоку дагэтуль мела турботы з недахопам беларускай мастацкай і крытычнай літаратуры. Поўных выданняў твораў пісьменнікаў і паэтаў, твораў самых навейшых, неабходных у карыстанні дзеля глыбейшага пазнання роднай літаратуры няма ў прадажы ў нашых кніжных магазінах. Таму кіраўніцтва ЗНС дзеля папаўнення сваёй бібліятэкі неабходнай беларускай літаратурай ззярнулася з просьбай аб дапамогу да Беларускага таварыства культурнай сувязі з заграніцай у Мінску. Просьба прынята з прыхільнасцю і ўжо 20 кастрычніка ЗНС атрымала экземпляры поўнага выдання твораў Янкі Купалы і Якуба Коласа.

Таварыства культурнай сувязі з заграніцай у Мінску ў сваім пісьме паведамляе, што ў недалёкім часе нашы студэнты атрымаюць усю неабходную літаратуру.

**(МК)**

# КІНО

БЕЛЬСК «ЗНІЧ» — ад 15—17 — **«Вятр в очы»** — (савецкі); ад 18—20 — **«Тшпётка»** (савецкі).

ГАЙНАЎКА «ВОЛЬНОСЦЬ» — ад 15—17 — **«Недоконьчона повесць»** (савецкі); ад 18—20 — **«Космос взыва»** (савецкі).

ДУБРОВА «БЛЫСКАВІЦА» — ад 15—17 — **«Марынаж з Комэты»** (савецкі); ад 18—20 — **«Огністэ вёрсты»** (савецкі).

САКОЛКА «КЛОС» — ад 15 — 17 — **«Ноцны патроль»** (савецкі); ад 18—20 — **«Гды кобета зостае сама»** (савецкі).

СЯМЯЦІЧЫ «САЮШ» — ад 15—17 — **«Муй укоханы»** (савецкі); ад 18—20 — **«Муму»** (савецкі).

БЕЛАВЕЖА «ЖУБР» — ад 15—18 — **«Гісторыя еднэй мілосьсці»** (савецкі); ад 18—20 — **«Неземске гісторые»** (чэхаславацкі).

ГАРАДОК «ЗВЯЗДА» — ад 15—17 — **«Тшпётка»** (савецкі); ад 18—20 **«Тысёнц талярув»** (польскі).

КЛЯШЧЭЛІ «ГЭЛЬ» — ад 15—17 — **«Ляцяць жураўлі»** (савецкі); ад 18—20 — **«Неземске гісторые»** (чэхаславацкі).

КРЫНКІ «МАЛЬВА» — ад 15—17 — **«Вэсэлі вспуллёкатожы»** (савецкі); ад 18—20 — **«Фалшэж»** (чэхаславацкі).

МІХАЛОВО «СТАЛІЦА» — ад 15—17 — **«Чтэрдзесты первшы»** (савецкі); ад 18—20 — **«Вспульны покуй»** (польскі).

МІЛЕЙЧЫЦЫ «ТЭНЧА» — ад 15—17 — **«Баллада а салдаце»** (савецкі); ад 18—20 — **«Пан Анатоль шука мільёна»** (польскі).

НАРАЎКА «ЛЯС» — ад 16—20 — **«Право уліцы»** (французскі).

НАРВА «МЭЛЁДЫЯ» — ад 16—20 — **«Моральносць пані Дульскей»** (чэхаславацкі).

ОРЛЯ «ОЖЭЛ» — ад 16—20 — **«Гды кобета зостае сама»** (савецкі).

РАЙСК «ЕДНОСЦЬ» — ад 16—20 — **«Др. Корда арэштованы»** (нямецкі).

ЧАРОМУХА «КОЛЕЯЖ — ад 15—17 — **«Таня і ей маткі»** (савецкі);

ЧЫЖЫ «ЗВЫЦЕНСТВО» — ад 16—20 — **«Мейсцэ на земі»** (польскі).

**(Увага! Лічбы нпр. «ад 16 — 20» азначаюць дні месяца).**

**(Працяг са стар. 3)**

нуў Ларэ. — Я еду да Керна неадкладна. Я не магу яе пакінуць там. Едзем са мною, Артур!

Артур прайшоўся па пакоі. Якое нечаканае ўскладненне!

— Паслухай, — сказаў Артур, апусціўшы рукі на плечы мастака. — Цяпер больш, чым калі - небудзь, нам неабходна моцна ўзяць сябе ў рукі і ўстрымацца ад неабдуманых учынкаў. Справа зроблена. Брыке ў Керна. Ці варта трывожыць заўчасна звера ў яго бярлозе? Як ты думаеш, раскажа Брыке Керну аб усім, што здарылася з ёю з таго часу, як яна ўцякла ад яго, аб нашым знаёмстве з ёю і аб тым, што мы шмат даведаліся аб Керне?

— Яна нічога не скажа, — упэўнена адказаў Ларэ.

— Будзь цярплівы, Ларэ, — сказаў Артур. — Нашы мэты зыходзяцца. У нас дзве дарогі: або нанесці Керну неадкладны ўдар, або пастарацца спачатку іншым шляхам даведацца аб лёсе галавы майго бацькі і аб Брыке. Знішчыць галаву можна ў некалькі мінут. Калі толькі паліцыя пачне дабівацца да яго дзвярэй, ён знішчыць усе сляды злачынства перад тым, як адкрые дзверы. І мы нічога не знойдзем. Не забудзь, Ларэ, што Брыке таксама «сляды злачынства».

— Тым больш яе трэба хутчэй ратаваць, — горача запярэчыў Ларэ.

— Так, ратаваць, але не паскорыць яе смерць.

52

— Але што ж рабіць?

— Ісці іншым шляхам. Мары Ларан нам можа даць куды больш вартасныя дадзеныя, чым Брыке. Ларан ведае размяшчэнне дома, яна даглядала галавы. Магчыма, яна гаварыла з маім бацькам.

— Дык давай хутчэй Ларан.

— На жаль, яе спачатку трэба таксама вызваліць. Яна ў бальніцы. Відавочна, у адной з тых бальніц, дзе за добрыя грошы трымаюць пад замком такіх жа хворых, як мы з табой. — І Дауэль расказаў сябру аб сваёй сустрэчы з маці Ларан.

— Нам неабходна сустрэцца з Ларан, — сказаў Артур.

— Я неадкладна еду туды.

— Гэта было б неасцярожна. Нам асабіста трэба паказвацца толькі ў тых выпадках, калі нічога іншага не застаецца. Трэба знайсці вернага чалавека, які паехаў бы ў Ско і завёў бы знаёмства з абслугай бальніцы. Калі ўдасца падкупіць каго, справа будзе напалавіну зроблена.

Ларэ нарэшце прымірыўся з палітыкай асцярожнага дзеяння.

— Але каго ж мы знойдзем? О, Шоўб! Малады мастак. Нядаўна прыехаў з Аўстраліі. Мой сябра, цудоўны чалавек, выдатны спартсмен. Для яго гэтая справа будзе таксама свайго роду спортам. Да д'ябла, — вылаяўся Ларэ, — чаму я сам не магу ўзяцца за гэта?

— Гэта так рамантычна? — з усмешкай спытаў Дауэль.

**Працяг будзе.**

53

**„N I W A"**

Organ ZG BTSK. Adres ZG BTSK: Białystok. ul. Warszawska 11 telefon 54-14.
Redaguje Kolegium. Adres redakcji: Białystok ul. Wesołowskiego 1 tel. centr 37-41 red. naczelny i sekretariat 25-89
Wydawca: Białostockie Wydawnictwo Prasowe RSW „Prasa"
Warunki prenumeraty w Polsce: miesięcznie — 2.40 zł kwartalnie — 7.20 zł półrocznie — 14.40. zł, rocznie — 28.80 zł.
Wpłaty kierować na PKO Nr 12-6-1312 w Białymstoku dla PUPiK „Ruch" Na odwrocie należy zaznaczyć na jaki adres dokonano
Prenumeratę na „Niwę" przyjmują również wszystkie urzędy pocztowe i listonosze w całym kraju. Cena prenumeraty za granicą: kwartalnie — 10.15 zł półrocznie — 20.30 zł i rocznie — 40.60 zł
wpłaty i podać tytuł pisma
Należność na prenumeratę za granicą wpłacać na konto PKO Nr 1-6-100024 PKWZ „Ruch" Warszawa
Zamówienia na „Niwę" z krajów europejskich jak i zamorskich (z wyjątkiem krajów demokracji ludowej) należy kierować pod adresem: CHZ „ARS POLONIA" Warszawa Krakowskie Przedmieście nr 7. Obowiązuje przedpłata na konto N.B.P. Warszawa 2-6-51. Prenumerata roczna wraz z przesyłką zwykłą wynosi $ 4.16

Nkł. 5.000 Bltk N-1

